I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Кастрычнік 2015

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну




## 480 год вызвалення Гомеля ад маскоўскай акупацыі

стар. 2

**Выканкамам прапанавалі адну вуліцу назваць Гомельскай**

стар. 3

**На гомельскі аўтавакзал вярнулася родная мова**

стар. 3

**На адным са «студэнцкіх» участкаў у Гомелі датэрмінова прагаласавалі 73,7%**

стар. 4

# 480 год вызвалення Гомеля ад маскоўскай акупацыі

***Гомель і Гомельская вобласць вось ужо 680 гадоў знаходзяцца ў складзе Беларусі, але не ўсім гэта гістарычная справядлівасць падабаецца зараз, а тым больш не падабалася і раней. Шмат якія чужынцы-заваёўнікі хацелі аспрэчыць права беларускага народа Гомельшчыны на сваю зямлю, захапіць адну з краінаабразуючых частак Беларусі, паняволіць яе жыхароў.***

Больш за ўсё да гэтага спрычыніліся продкі сучасных расейцаў, чыя тагачасная дзяржава Маскоўскае княства - Маскоўскае царства - Расійская імперыя - СССР увесь час спрабавала адарваць ад Беларусі Гомельскую зямлю, захапіць тое, што ёй ніколі не належала.

На гэты конт слушную заўвагу мне зрабіў гісторык Яўген Малікаў: "Узгадваючы 1335 г. і перамогу нашых продкаў, не забудзцеся ўзгадаць, у каго ж яны "захапілі" (дакладней адбілі ці вызвалілі) Гомель. Нашы продкі з Вялікага княства адбілі Гомель (разам з іншымі гарадамі гістарычнай Севершчыны) у мангола-татар. Дакладней у іх намеснікаў. Таму перажываць, як было прынята ў гісторыкаў канца XIX ст. што "Гомель несправядліва захапіла Літва" (а Масква ў той час увогуле знаходзілася ў амаль першабытным стане!) могуць толькі тыя, для каго "лепш мангола-татарам, чым Літве (ВКЛ)".

Хочацца спадзявацца, што расейцы з сучаснай Расійская Федэрацыя нарэшце перакрэсліць ганебную практыку сваіх продкаў і перастануць спрабаваць забраць сабе тое, што ніколі ім не належала. Хоць сітуацыя ва Украіне паказвае, што да гэтага ёй яшчэ далёка. Таму беларусам, асабліва гамельчукам, магілеўцам, віцябчанам, трэба добра ведаць сваю гісторыю, ведаць, адкуль гістарычна ў Беларусь прыходзіла найбольшае гора і пагроза, сябраваць са сваім усходнім суседам (бо сябраваць з суседзямі натуральны стан як чалавека, так і дзяржавы), але памятаць, што гэта за сусед і быць падрыхтаваным пры неабходнасці паставіць яго на месца.




Вяртаючыся да юбілейнай для Гомеля даты - 480 год вызвалення ад маскоўскай акупацыі, трэба адзначыць, што цягнулася яна 35 гадоў з 1500 па 1535 год. Акупаваны Гомель быў падчас 4-й Руска-Беларускай (Літоўскай) вайны 1500-1503 года. Усяго такіх войнаў паміж беларусамі і рускімі ў перыяд з 1368 па 1582 год было дзевяць. У 4-й Руска-Беларускай вайне саюзнікамі Маскоўскага княства быў хан Менглі I Гірэй, разам з якім рускімі і быў здзейснены напад на хрысціянскую Беларусь.

Для мяне гэта вайна мае і асабістае значэнне - тады было акупаванае і маё роднае мястэчка Свяцілавічы, першая летапісная згадка аб якім якраз і звязанае з гэтай вайной.

Цяжкія гады акупацыі (для параўнання: падчас II Сусветнай вайны Гомель пад нямецкай акупацыяй быў толькі 3 гады) скончыліся ў 1535 годзе, калі падчас 7-й Руска-Беларускай вайны 1534-1537 гадоў Вялікі гетман ВКЛ, князь Юрый Радзівіл Геркулес адбіў наш горад ад акупантаў. Сімвалічна, што вярнуў Гомель Беларусі князь Юрый Радзівіл роўна праз 200 год з даты, калі князь Альгерд Гомель да Беларусі далучыў упершыню.

Важна памятаць сваю гісторыю і шанаваць памяць сваіх герояў. Некаторая праца ў гэтым накірунку ўжо вядзецца - адной з новых вуліц горада Жыткавічы Гомельскай вобласці ў будучым плануецца надаць імя князя Юрыя Радзівіла, што вызваліў Гомель у 1535 годзе ад маскоўскай акупацыі. Юрый Радзівіл сапраўдны ганаровы грамадзянін горада, што цвёрда канстатаваў: Гомель заўжды быў і заўжды будзе беларускім.

*Ігар Случак*

## Выканкамам прапанавалі адну вуліцу назваць Гомельскай

***У гэтым годзе Гомель адзначае 680-годдзе вызвалення Гомельшчыны ад наменікаў Арды і іншых заваёўнікаў. Гэта здзейсніў князь Альгерд. Каардынатар грамадскай ініцыятвы "Справаводства па-беларуску", жыхар Гомеля Ігар Случак лічыць, што гэтаму юбілею мала надаецца ўвагі ў Беларусі, таму ён разаслаў ва ўсе равыйканкамы краіны ліст з адмысловай прапановай:***

– Я звярнуўся да раённых выканаўчых камітэтаў Беларусі і распавёў ім пра гэтую дату, і прапанаваў у будучым, каб новая вуліца была названая, альбо старая была перайменаваная, па магчымасці, у вуліцу Гомельскую. Каб такім чынам павязаць усе рэгіёны Беларусі паміж сабой.

Ініцыятыва гэтага звароту звязана яшчэ і з тым, што ў расейскім імперскім друку час ад часу ўзнікаюць дыскусіі пра незаконнае далучэнне Гомеля да Беларусі ў 1926 годзе. "Але як сведчыць гісторыя і гэты юбілей, Гомельшчына – гэта старажытная беларуская зямля," – заключае Ігар Случак.

.

*Беларускае Радыё Рацыя*




## На гомельскі аўтавакзал вярнулася родная мова

***Гамельчукі дамагліся вяртання беларускамоўных шыльдаў і надпісаў на аўтавакзале. Блогеры і журналісты арганізавалі кампанію зваротаў па беларусізацыі галоўнага аўтавакзала вобласці. Дырэктар прадпрыемства „Гомельаблаўтатранс" Дзмітрый Старасценка падзякаваў грамадзянам за патрыятычную пазіцыю ў адмысловых адказах, а неўзабаве на будынак вакзала вярнуліся надпісы на роднай мове.***




Адзін з ініцыятараў кампаніі Ігар Случак прыемна здзіўлены аператыўнай рэакцыяй чыноўнікаў.

– Галоўная шыльда аўтавакзала зменена на беларускамоўную. Унутры вакзала таксама надпісы часткова прадубляваныя. Асноўная інфармацыя – прадублявана. Калі я пісаў звароты, то не думаў, што да іх прыслухаюцца. Бо звычайна ў такіх выпадках ідуць адказы, што справа зроблена, грошай няма; што, магчыма, калі-небудзь яны іх прадублююць, як з'явяцца грошы.

Гомельскі аўтавакзал пазбавіўся надпісаў на роднай мове пасля нядаўняй рэканструкцыі. Гэтую змену спачатку заўважыў карэспандэнт „Камсамольскай праўды" Павел Міцкевіч. Пасля публікацыі ў выданні гамельчукі сталі масава пісаць лісты ў дырэкцыю „Гомельаблаўтатранса", што дало пазітыўны вынік.

*Беларускае Радыё Рацыя, Гомель*

# На адным са «студэнцкіх» участкаў у Гомелі датэрмінова прагаласавалі 73,7%

***На ўчастку для галасавання № 29 Цэнтральнага раёна Гомеля яўка за ўсе дні датэрміновага галасавання склала 73,7%. Усяго на ўчастку 677 выбаршчыкаў, датэрмінова прагаласавалі 499 чалавек.***

Як паведаміў назіральнік Беларускага Хельсінкскага камітэта Віктар Адзіночанка, асаблівасць участка ў тым, што там галасуюць галоўным чынам студэнты ГДУ імя Ф.Скарыны. Назіральнік заўважыў, што на іншых «студэнцкіх» участках працэнты выбаршчыкаў, якія прагаласавалі датэрмінова, будуць немалыя.

«У нас няма фактаў, што студэнтаў гомельскіх ВНУ прымушалі ці рэпрэсавалі за адмову прагаласаваць датэрмінова, але што дэканы, куратары груп, загадчыкі інтэрнатаў настойліва рэкамендавалі наведаць участкі да асноўнага дня галасавання — гэта праўда. І нават такія рэкамендацыі — гэта ўжо прымус, таму што калі цябе начальства просіць штосьці зрабіць — цяжка адмовіць», — пракаментаваў Адзіночанка.




Паводле яго слоў, у іншых назіральнікаў зафіксаванае сур'ёзнае разыходжанне па колькасці тых, хто прагаласаваў. Напрыклад на ўчастку № 23 Савецкага раёна Гомеля назіральнік зафіксаваў 182 грамадзян, якія прагаласавалі, а камісія ў пратаколе адзначыла, што аддалі галасы ўжо 427 чалавек.

На ўчастку № 39 Чыгуначнага раёна і члены камісіі, і назіральнікі ад ветэранскай арганізацыі, арганізацыі «Белая Русь» і Саюза жанчын працуюць у адным працоўным калектыве. «Гэта не адзінкавы выпадак у Гомелі, калі і члены ўчастковай камісіі, і назіральнікі — з аднаго калектыву. Калі ўчастак размешчаны ў каледжы — то гэта супрацоўнікі каледжа, калі ў ДК «Гомсельмаш» — то і члены ўчастковай камісіі, і назіральнікі працуюць на адным прадпрыемстве», — дадаў назіральнік.

Ён адзначыў асаблівасць: участковыя камісіі вельмі старанна выконваюць фармальныя патрабаванні заканадаўства і больш-менш добразычліва ставяцца да назіральнікаў.

Паводле слоў назіральніка Леаніда Судаленкі, на ўчастку № 61 Савецкага раёна Гомеля за час датэрміновага галасавання «адзначыліся» 45,3% выбаршчыкаў. Большасць з іх — навучэнцы ліцэя лёгкай прамысловасці.

.

*Зміцер Якаўцоў*

Ты можаш быць бясконца правы, але які ў гэтым сэнс, калі судовы працэс адбываецца ў Беларусі?

## У Гомелі слесар узяў на рамонт аўтамабіль, выкраў яго і зрабіў інвалідам кіроўцу мапеда

***Суд Гомельскага раёна 7 кастрычніка вынес прыгавор жыхару абласнога цэнтра 1961 года нараджэння. Мужчына выкраў аўтамабіль (арт. 214 КК) і ўчыніў ДТЗ, вынікам якога было прычыненне іншаму кіроўцу цяжкіх цялесных пашкоджанняў (арт. 317 КК).***

Як паведаміў памочнік пракурора Гомельскага раёна Кірыл Кадаўба, гамяльчанін прыгавораны да шасці гадоў пазбаўлення волі. Суд пастанавіў таксама спагнаць з абвінавачанага кампенсацыю маральнага і матэрыяльнага ўрону ўладальніку выкрадзенага аўтамабіля і пацярпеламу ў ДТЗ кіроўцу мапеда.

Паводле слоў Кадаўбы, жыхар Гомеля працаваў майстрам па рамонце аўтамабіляў. 3 чэрвеня 2015 года ён узяўся дома за рамонт аўтамабіля. Наступным днём майстар выпіў і вырашыў пакатацца на чужым аўтамабілі. У дарозе адбылася разгерметызацыя пярэдняга кола, аўтамабіль выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з мапедам, якім кіраваў жыхар вёскі Краснае 1986 года нараджэння. Пасля сутыкнення з мапедам аўтамабіль уехаў у бетонную агароджу. Кіроўца аўтамабіля, паводле паказанняў відавочцаў, выйшаў з транспартнага сродку, дастаў бутэльку гарэлкі і пачаў піць.

Кіроўца мапеда атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні. Ён стаў інвалідам першай групы. У пацярпелага мужчыны на ўтрыманні двое непаўналетніх дзяцей.

Прысуд не набыў моц, можа быць абскарджаны і апратэставаны.

*БелаПАН*

## У Магілёве затрымалі серыйнага рабаўніка

***У Магілёве затрымалі серыйнага рабаўніка. 34-гадовы магілёвец займаўся рабаваннем з сьнежня 2013 года па красавік 2015 года. Зарабляў у дзіцячых садках, бальніцах і паліклініках.***

Зламыснік пранікаў у службовыя памяшканні і спусташаў кашалькі, пакінутыя без нагляду. «Нашы супрацоўнікі выйшлі на рабаўніка і затрымалі яго», - паведаміў начальнік аддзела крымінальнага вышуку Кастрычніцкага РАУС Аляксандр Талкачоў.

Мужчына прызнаў дачыненне да 14 фактах злачыннай дзейнасці. У дачыненні да яго распачата некалькі крымінальных спраў.

34-гадовы непрацуючы жыхар абласнога цэнтра раней быў судзімы за аналагічныя злачынствы ў Магілёве і Гомелі.

*news.tut.by*

- Адчыняйце, міліцыя!
- Што вы хацелі?
- Паразмаўляць.
- А колькі вас?
- Двое.
- Вось і паразмаўляйце.

## Расеец спрабаваў абмяняць ў Гомелі 1400 фальшывых еўра

***У пункце абмену валют аднаго з банкаў Гомеля грамадзянін Расіі паспрабаваў абмяняць на беларускія рублі 1400 еўра, якія аказаліся падробленымі, паведаміла афіцыйны прадстаўнік Гомельскага абласнога ўпраўлення Следчага камітэта Марыя Крываногава.***

53-гадовы прадпрымальнік з расійскага рэгіёну, прыехаўшы ў Гомель, меў намер абмяняць сем банкнот наміналам 200 еўра, для чаго і адправіўся ў банк. Аднак сапраўднасць купюр выклікала сумневы ў работніка абменнага пункта, пасля чаго паступіў сігнал у праваахоўныя органы. Па словах камерсанта, валюту ён набыў на тэрыторыі Расіі.

Грошы былі канфіскаваныя. Праведзеная экспертыза паказала наяўнасць прыкмет падробкі. Па дадзеным факце распачатая крымінальная справа. Расследаванне вядзе Гомельскі гарадскі аддзел Следчага камітэта.

*БелТА*

## Першая ў БССР дзіцячая чыгунка

***Першая ў БССР дзіцячая чыгунка з'явілася ў жніўні 1936 года ў Гомелі. Яна была размешчана каля стадыёна "Лакаматыў". Працяжнасць чыгункі ~ 0,5 км. Працавалі дзве станцыі: "Радасная" і "Шчаслівая". Састаў складаўся з дарэвалюцыйнага цягніка амерыканскай фірмы ALKO серыі "В" і дзьвух вагонаў, выробленых ў гомельскім "ВРЗ".***

Пад час ВАВ дзіцячая чыгунка была знішчана. На аэрафатаздымку добра бачна размяшчэнне чыгункі каля стадыёна.

У 2016 г. будзе 80-годдзе з'яулення першай дзіцячай чыгункі ў Беларусі. Яшчэ ёсць час яе аднавіць.

# У Мазыры злодзей, уцякаючы з месца злачынства, засеў у адтуліне ў сцяне гаража

***Трое мужчын без пэўнага месца жыхарства праніклі ў гараж жыхара Мазыра, праламаўшы ў ім сцяну, аднак выбрацца назад змаглі не ўсе.***

паведамляе УУС Гомельскага аблвыканкама са спасылкай на намесніка начальніка Мазырскага РАУС Уладзіміра Старавойта, інцыдэнт здарыўся 4 кастрычніка ў гаражным кааператыве на вуліцы Інтэрнацыянальнай райцэнтра.

Мужчыны збіраліся пажывіцца запасамі на зіму, якія знаходзіліся ў гаражы. Праламаўшы сцяну, яны праніклі ўнутр, знайшлі прадукты харчавання і зладзілі ў памяшканні імправізаваную пагулянку. Але неўзабаве былі заспетыя гаспадаром.

З месца злачынства бяздомныя спрабавалі ўцячы праз той жа праём. У двух гэта атрымалася, а трэці не змог праціснуцца ў адтуліну.

Злодзея на месцы здарэння затрымалі супрацоўнікі дэпартамента аховы. Пазней міліцыянеры знайшлі і яго саўдзельнікаў. Матэрыялы па факце здарэння перададзеныя ў Мазырскі РАСК для распачынання крымінальнай справы.

*БелаПАН*




# У Гомелі расіянін атрымаў 15 гадоў за забойства з асаблівай жорсткасцю

***У Гомелі да 15 гадоў пазбаўлення волі прыгавораны грамадзянін РФ, жыхар Масквы 1958 года нараджэння.***

Як паведамляе Гомельскі абласны суд, ён прызнаны вінаватым у забойстве з асаблівай жорсткасцю (п. 6 ч. 2 арт. 139 КК), а таксама ў наўмысным знішчэнні і пашкоджанні маёмасці, учыненымі агульнанебяспечным спосабам, якія пацягнулі прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры (ч. 3 арт. 218 КК). Пастанова суда можа быць абскарджаная і апратэставаная.

З абвінавачванага на карысць пацярпелай у якасці пакрыцця матэрыяльнага ўрону спагнана больш за 290 млн рублёў і грашовая кампенсацыя маральнага ўрону на 50 млн рублёў. На карысць другога пацярпелага спагнана кампенсацыя за матэрыяльны ўрон у памеры больш як 280 млн рублёў.

Забойства здарылася ў снежні 2014 года. Ратавальнікі, якія прыбылі па выкліку на пажар, знайшлі ў згарэлым гаражы труп мясцовага жыхара. Пасля следчыя выявілі ў гаражы нож з астаткамі крыві. Па падазрэнні ў забойстве быў затрыманы расіянін.

Летась сямейная пара масквічоў вырашыла адрамантаваць свой пазадарожнік «Міцубісі-Паджэра» ў Петрыкаве ў сваякоў жонкі загінулага. Джып размясцілі ў гаражы знаёмага, а праз некалькі месяцаў масквіч прыехаў у Петрыкаў разам са сваім знаёмым, каб заняцца рамонтам. 9 снежня падчас распіцця спіртнога паміж расіянамі ўзнікла сварка, якая завяршылася бойкай і панажоўшчынай. Абвінавачваны нанёс ахвяры дзевяць нажавых раненняў у вобласць грудной клеткі, ад атрыманых ран 49-гадовы мужчына памёр на месцы. Каб замесці сляды, забойца падпаліў гараж.

Пажар знішчыў двухпавярховы гараж і ўсё, што знаходзілася ў ім: дакументы, мэблю, бытавую тэхніку, інструменты, аўтамабіль і асабістыя рэчы пацярпелага. Агульная сума ўрону склала 450 млн рублёў.

*БелаПАН*



# Абвінавачаныя ў забойстве немаўляці бацькі з Гомеля асуджаныя да 19 гадоў пазбаўлення волі

***У Гомельскім абласным судзе сёння, 2 кастрычніка, вынесены прысуд па крымінальнай справе пра забойства бацькамі заведама малалетняй дачкі, а таксама пакіданні ў небяспецы нованароджанага сына. Абодвум прызначана пакаранне ў выглядзе 19 гадоў пазбаўлення волі.***




Суд прызнаў вінаватымі 32-гадовую маці і 35-гадовага бацьку, жыхароў Гомеля, у наўмысным забойстве заведама малалетняга, здзейсненага з асаблівай жорсткасцю групай асоб. Ён таксама палічыў цалкам даказанай іх віну ў пакіданні ў небяспецы другога немаўляці, якога яны кінулі ў пад'ездзе шматпавярховага дома. Бацьку вызначана адбываць тэрмін у папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму, а маці — у ВК агульнага рэжыму. Прысуд не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

Судовае следства па гэтай справе доўжылася каля двух месяцаў. Пары было прад'яўленае абвінавачванне ў наўмысным забойстве трохмесячнай дачкі, якую яны ў маі 2014 года пакінулі адну ў замкнёным кватэры, пасля чаго не цікавіліся яе лёсам каля дзесяці месяцаў, бадзяжнічалі хаваючыся пад выдуманымі імёнамі.

Таксама ў студзені 2015 пасля нараджэння сына біялагічныя бацькі кінулі дзіця ў пад'ездзе шматпавярховага дома, дзе яго знайшлі жыхары, якія паведамілі пра гэта ў міліцыю. Пасля выяўлення нованароджанага хлопчыка была адшукана яго маці. Тады ж у кватэры бацькі знойдзены муміфікавалі труп трохмесячнай дачкі.

*БелТА*

# Расія знайшла гніль у беларускай бульбе з Гомельскага раёну

***Федэральная служба па ветэрынарным і фітасанітарным наглядзе заклапочана сітуацыяй з фітасанітарным станам беларускай бульбы, паведамляе сайт ведамства.***

Так, пры правядзенні каранціннага фітасанітарнага кантролю беларускай бульбы быў выяўлены некаранцінны рэгуляваны арганізм — кальцавая бактэрыяльная гніль бульбы (Clavibacter michiganensis subsp. Sepedonicus (Spieckermamm & Kotthoff) Devisetal).

«Указаны аб'ект з'яўляецца каранцінным аб'ектам для Рэспублікі Беларусь, і паступленне заражанай прадукцыі, у суправаджэнні фітасанітарнага сертыфіката РБ, выклікае сур'ёзную заклапочанасць Рассельгаснагляду», — адзначаецца ў паведамленні.

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што, нягледзячы на прысутнасць дадзенага захворвання ў пераліку каранцінных аб'ектаў Рэспублікі Беларусь, кальцавая бактэрыяльная гніль бульбы распаўсюджана ў 28 раёнах Беларусі, падкрэслівае Рассельгаснагляд.

Адгрузка ў Расію заражанай кальцавой бактэрыяльнай гнілі бульбы, мяркуючы па месцы афармлення фітасанітарнага сертыфіката, адбывалася менавіта з заражанага раёна (Гомельскі раён). Пры гэтым у фітасанітарных сертыфікатаў, выдадзеных Галоўнай дзяржаўнай інспекцыяй па насенняводстве, каранціне і ахове раслін Рэспублікі Беларусь, якімі суправаджаецца падкаранцінная прадукцыя, было ўказана, што яна вырашчана ў свабоднай зоне.

«Гэты факт наўпрост сведчыць не толькі пра неэфектыўнасць беларускай сістэмы фітасанітарнага кантролю, але і ў чарговы раз пацвярджае асцярогі Рассельгаснагляду, звязаныя з гарантаваннем беларускім бокам фітасанітарнай бяспекі на знешнім контуры Еўразійскага эканамічнага саюза», — зазначаецца на сайце ведамства.

*nn.by*

# Свіныя вушы

***Дачакаліся беларускай традыцыйнай кухні? Думаю, што дарасла да разумення непаўторнасці менавіта беларускіх страў, таму будуць сустракацца і нашыя рэцэпты. Увогуле, нават год таму не думала, што буду гатаваць свіныя вушы, але муж вельмі прасіў і я сама пакаштаваа гэтую смакату ў рэстарацыі. Зразумела, што трэба пазбаўляцца прадузятага стаўлення да гэтага прадукта. Паспрабуйце і вы прыгатаваць.***




У летні перыяд вушы сустракаюцца рэдка, таму што хутка псуюцца. Лепшы варыянт набываць іх на рынку з раніцы (у Гомелі каштуюць 45.000 кг) і ў абед ужо гатаваць. Зімой яны значна танней і знайсці іх лёгка на рынку ці ў мясных фірмовых крамах.

*kli4nik.info*

# Цікавы факт

Мінск налічвае 1300 вуліц, праспектаў і завулкаў. У Магілёве амаль 900 вуліц, а ў Віцебску іх 850. Істотна адстаюць ад іх іншыя абласныя цэнтры - у Гомелі 700 вуліц, у Брэсце - 670, у Гродна - 550.

- Ваш квіточак?
- Мой квіточак.
- Ваш квіточак?
- Мой квіточак.
- Вы што, хворы?
- А вы што, доктар?
- Ваш квіточак!
- Мой квіточак...
- Ды што вы ўсё заладзілі, іншых слоў не ведаеце?
- Ведаю: пыласос.
- Я кантралёр!
- А я сантэхнік...
- У вас усе ў хаце???
- А вы хочаце ў госці?..
- Ваш квіточак!!!
- Мой квіточак...
- Вы што, заяц?
- А вы што, воўк?
- Ваш квіточак!!!
- А навошта ён вам?
- Ну, я пагляджу...
- Ну, купіце сабе і глядзіце...
- Ваш квіточак!!!
- А вось і мой прыпыначак!

# Патрэбны галоўны рэдактар.

Праекту BelMetal патрэбны чалавек, які цікавіцца беларускай метал-сцэнай, гатовы здабываць інфармацыю, камунікаваць зь дзеячамі, пісаць пра гэта разам з калегамі. Чалавек з ідэямі і журналісцкім бачаньнем, каб прыняць нашае СМІ і весьці яго.

*Мы тут: belmetal.org@gmail.com*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Кастрычнік 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
**vk.com:** gnavinkicom
**facebook.com:** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA